# Тыднёвік Магілёўскі

№ 8 (149) 22 — 28 лютага 2002 г. Кошт 100 руб.

## Не глядзі, што нямоглыя — выжывуць...





Фота IREX

*Распачатае "рэфармаваньне калгасаў" дазволіла сялянам разьбіраюць зямлю на паі. Але нешта не чуваць, каб гэта выклікала ў іх інтарэс. Прычын таму – некалькі, і ня ўсе яны чыста эканамічныя.*

*Па-першае, у вёсцы ў апошнія дзесяцігодзьдзі імкліва скарачалася колькасьць маладых працаздольных мужчынаў. Ад 1973 г. у гарадах нараджаецца дзяцей больш, чым у вёсках.*

*Па-другое, сёньняшняя кваліфікацыя вяскоўцаў не адпавядае патрэбам грамадзтва. Бо калі скласьці напаўпісьменнага палявода з эканамістам з канторы, то фэрмэра – эфэктыўнага ўласьніка – не атрымаецца. У беларускіх умовах трэба мець ня менш за тэхнікумаўскі дыплём у якой аграрнай навуцы ды гадоў сем стажу наёмнай працы ў добрага вясковага гаспадара. Таму фэрмэраў у Беларусі цяпер меней за тры тысячы. А паводле апытаньняў канца 1980-х, калі яшчэ быў настрой працаваць самастойна, іх цяпер магло быць у дзесяць разоў болей.*

*Па-трэцяе, вяскоўцы ўсё ж не такія простыя, як гэта падаецца "вэртыкальнаму" начальству. Яны бачаць, што фэрмэр, які мае зямлі ў памеры сярэдняга раёну, і прадукцыі дае як сярэдні раён. Гэта ж колькі працаваць трэба! І самому пра ўсё думаць: пра тэхніку, паліва, запчасткі, угнаеньні, тэхнічнае абслугоўваньне. А вэтэрынарыя, а насеньне!.. А цэны на прадукцыю такія, што й свайго ня вернеш.*

*Невялікі адсотак сялянаў пагаджаецца ўсё ж з начальніцкімі прапановамі пра самароспуск калгасаў і пераўтварэньне іх у нешта іншае. Вось толькі няма адказу на пытаньне: што ж з вэтэранамі калгаснага ладу рабіць, якія паклалі сваё жыцьцё на гэтыя калгасы? Старых жа ў вёсцы абсалютная большасьць.*

*Між тым пакуль калгасы ў людзей малако зь мясам пазабіралі, а грошай не аддаюць! І начальства, якое за калгасы змагалася і яшчэ зусім нядаўна стаяла на тым, што "калгасы не сказалі свайго апошняга слова і ня выпрацавалі свайго патэнцыялу", адказваць за страчаны час, як бачна, не зьбіраецца. І за страчаныя магчымасьці беларускай вёскі — таксама. Таму й дазваляе зусім занямоглым гаспадаркам не араць зямлі: абы ціха. Маўляў, беларусы неяк выцягнуць краіну і неяк самі выжывуць...*

**Міхась ЗАЛЕСКІ**

## Дзе яна, тая праўда

***Чатыры бабруйскія жанчыны, якія летась вытрымалі дзесяцідзённую галадоўку на прыступках бабруйскага помніка Леніну, а ў сьнежні правялі акцыю пратэсту насупраць будынку Адміністрацыі ў сталіцы, зноў зьбіраюцца ў Менск.***

Адна зь іх, Любоў Санкевіч, днямі распавяла, што надзеі чатырох жанчын-галадоўшчыц на вырашэньне іхных праблемаў зноў ня спраўдзіліся. Яны, як вядома, дамагаюцца аднаўленьня на працы, кампэнсацыі за незаконнае звальненьне, а таксама выдзяленьня іхным сем'ям кватэраў.

Нагадаем, што 19-га сьнежня кабеты былі затрыманыя ля будынку Адміністрацыі ў Менску, пасьля чаго дзьве зь іх атрымалі па 1,5 млн. рублёў штрафу, а іншыя дзьве – па 10 суткаў адміністрацыйнага арышту, які ўрэшце скасавалі з-за іхных хваробаў. Потым, аднак, ім паведамілі, што спагнаньні ўвогуле зьліквідаваныя, паколькі лёсам галадоўшчыц нібыта ўсё ж зацікавіўся Лукашэнка. Больш таго, па словах Любові Санкевіч, яму быццам даклалі, што праблема вырашана.

Але паколькі гэта зусім ня так, чатыры бабруйчанкі вырашылі зноў сабрацца разам і ехаць у Менск, каб сустрэцца з дэлегатамі беларускага зьезду судзьдзяў. Якім чынам яны плянуюць гэта зрабіць, пакуль невядома. Але свой зварот да гэтага зьезду яны ўжо напісалі...

***Паводле RR***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНЫЧАХ



***Падрыхтаваны да друку зборнік "Жыватворная крыніца", які зьмяшчае каля ста адзінак фальклёрнага матэрыялу.***

Зборнік – гэта вынік працы ініцыятыўнай групы па зборы фальклёру, якая правяла ўжо некалькі экспэдыцыяўсустрэчаў у раёне. Сабраныя лепшыя ўзоры мясцовай вуснай паэтычнай творчасьці разьмеркаваныя па разьдзелах. У камэнтарах падаюцца зьвесткі аб тых, хто захаваў у сваёй памяці народную спадчыну. Укладальніцай зборніка выступіла кіраўнічка фальклёрнай ініцыятывы Надзея Палонік.

***У Дзень Сьвятога Валянціна мясцовая філія "Маладой Грамады" арганізавала сьвяточную імпрэзу.***

Падчас яе выступіў запрошаны зь Менску папулярны беларускі сьпявак Аляксандар Памідораў, а таксама адбыўся дэбютны выступ братоў Скамейкаў, якія прадэманстравалі неблагую канцэртную праграму бардаўскай песьні.

***У мінулую нядзелю заняткі Народнага Ўнівэрсытэту пачаліся зь візіту начальніка службы грамадзкай бясьпекі мясцовага РАУС Манікайлы.***

Аднак яго цікавіла ня лекцыя па гісторыі беларускага мастацтва, якую чытаў прафэсар Юры Хадыка, а сама асоба лектара, слухачы ў аўдыторыі ды ўвогуле Народны Ўнівэрсытэт. Дарэчы, сярод слухачоў міліцэйскі начальнік заўважыў намесьніка пракурора раёна Тамару Ракіцкую. У выніку ў панядзелак яна вымушаная была даваць абласному начальству тлумачэньні.

Нагадаю, што гэта ўжо другая спроба мясцовых уладаў перашкодзіць працы грамадскага ўнівэрсытэту: у сярэдзіне студзеня яму адмовілі ў памяшканьні (зараз людзі зьбіраюцца ў прыватнай кватэры).

***Заўважна зьнізіліся аб'ёмы закупкі малака ў насельніцтва.***

Так, у студзені прыватныя гаспадаркі рэалізавалі агулам 33 тоны сырадою – на 23,3% меней, чым за аналягічны пэрыяд мінулага году. Вяскоўцы не жадаюць прадаваць малако дзяржаве збольшага таму, што зь імі нерэгулярна разьлічваюцца: напачатку года запазычанасьць складала 11,4 мільёна рублёў.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

## Пагоня за рэдактарам

***На мінулым тыдні Гарадзенская абласная пракуратура прад'явіла абвінавачваньне галоўнаму рэдактару нядаўна зачыненай рашэньнем Вышэйшага гаспадарчага суду газэты "Пагоня" Міколе Маркевічу.***

Сьледчы пракуратуры Алег Кулевіч прыйшоў да высновы, што ў трох публікацыях "Пагоні" з №36 ад 04.09.2001г. утрымліваецца "абраза прэзыдэнта РБ, спалучаная з абвінавачваньнем яго ў асабліва цяжкіх злачынствах – забойстве, генацыдзе і ўтварэньні злачыннай арганізацыі альбо ўдзеле ў ёй". Такім чынам, па меркаваньні пракуратуры, Мікола Маркевіч, як галоўны рэдактар газэты, зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае часткай 2-й артыкулу 367 Крымінальнага кодэксу. Пакуль мерай стрыманьня для М.Маркевіча абраная падпіска аб нявыезьдзе. Яму можа пагражаць да пяці год пазбаўленьня волі.

У пісьмовай заяве, далучанай да пратаколу, спадар Маркевіч запатрабаваў неадкладнага спыненьня крымінальнага перасьледу, бо ня лічыць сябе вінаватым, паколькі не парушаў ніякіх законаў, а сумленна выконваў свае прафэсійныя абавязкі. У лісьце зьвяртаецца ўвага на тое, што вышэйзгаданы нумар "Пагоні" увогуле не пабачыў сьвету, бо быў канфіскаваны супрацоўнікамі пракуратуры 5-га верасьня мінулага году.

Некалькі дзясяткаў журналістаў і грамадзкіх дзеячаў як Гарадзеншчыны, так і іншых рэгіёнаў, а таксама эўрапейскія журналісцкія і праваабарончыя арганізацыі паставілі подпісы ***(свой голас за гэта аддаў і "ТМ")*** пад лістом да абласнога пракурора ды іншых дзяржаўных інстанцыяў, у якім патрабуюць спыніць справу, бо "перасьлед такіх людзей і штучнае "навешваньне" ім крымінальшчыны ёсьць справай процідзяржаўнай, шкоднай для краіны".

***Паводле www.pahonia.com***

**P.S.** У кватэры рэдактара "Пагоні" Міколы Маркевіча днямі апісалі маёмасьць на 500 тысяч рублёў – такую суму ён павінен заплаціць у якасьці штрафу за ўдзел у пікеце (месяц таму) з нагоды закрыцьця свайго выданьня. Жонка сп.Міколы Вольга паведаміла, што судовыя выканаўцы апісалі ў кватэры бытавую тэхніку, прычым па заніжаных коштах.



## Свой погляд на тыдзень воблосьці

**Бязьзьменны ад пачатку фронтаўскага руху кіраўнік абласной суполкі БНФ Анатоль Фёдараў саступіў пасаду іншаму чалавеку. Некалі й даволі працяглы час ён узначальваў абедзьве арганізацыі – абласную і гарадзкую. З старшынёўства ў апошняй яму даводзілася пэрыядычна сыходзіць. Пасаду ж старшыні абласной структуры ён пакінуў упершыню, застаўшыся намесьнікам. Гэта адбылося падчас абласной справаздачна-выбарчай канфэрэнцыі БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ, якая сабрала больш за 40 дэлегатаў з Магілёва і большасьці раёнаў. Старшынём выбралі Рыгора Костусева, які да нядаўняга часу жыў і працаваў у Шклове. У Фронце ён даўно. Аднак толькі ў апошнія год-два асабліва адчувальна зьведаў перасьлед і нялюбасьць раённай адміністрацыі. У выніку быў вымушаны звольніцца з пасады начальніка раённай жыльлёва-камунальнай службы й перабрацца ў абласны цэнтар.**

Аблвыканкам узнагародзіў Бабруйск... чырвоным сьцягам. Як калісьці казалі мае знаёмцы-бабруйчане, "лепш, канешне, каб далі што паесьці ды ў кішэню пакласьці, але і хустачку куды-небудзь прыкладзем". Паказчыкі ў гораду ня лепшыя за агульныя па краіне: прамысловасьць спыняецца, скарачае вытворчасьць прадукцыі і кадры шынны камбінат, мэдыкі і настаўнікі не атрымліваюць заробкаў. Але перамозе ў "сацыялістычным спаборніцтве", як бачым, гэта не замінае.

**Як паведаміў галоўны доктар станцыі пераліваньня крыві Барыс Гальдынбэрг, дзяржава сёлета прафінансавала пакуль толькі 40% неабходных выдаткаў установы. Грошы будуць скарыстаныя ўжо ў бягучым месяцы. А што далей, ніхто ня ведае. Цяпер штодзень будуць прымаць на платнай аснове кроў толькі ад 40 чалавек, а плазму – ад 15. А ў лякарнях і шпіталях пайшлі нават на тое, што назвалі "бясьпечным донарствам": кроў бяруць у саміх хворых, ачышчаюць яе ды пускаюць назад у арганізм...**

Як стала вядома, на 2003-ці год у Магілёве ўлады запланавалі пабудову праваслаўнага Спаса-Прэабражэнскага сабору (найвялікшага ў краіне). Як заўжды ў падобных выпадках, грошы на будаўніцтва пойдуць з двух крыніцаў. Адна, кволенькая, – асабістыя ахвяраваньні вернікаў. Другая – укладаньні, як іх трапна заве народ, дабравольна-прымусовыя. На сёньня іхны памер ужо ацэньваецца ў 130 млн. рублёў. З гэтай нагоды мне хочацца нагадаць уладам пра тое, што каля вёскі Княжыцы развальваецца ўнікальны касьцёл 17-га стагодзьдзя, а ў Крычаве патрабуе рэстаўрацыі цудоўны Палац 18-га стагодзьдзя. Ня кажучы ўжо пра тое, што ў абласным цэнтры неабходна рамантаваць Палац Каніскага, дзе месьціцца Музэй гісторыі Магілёва. А яшчэ гарадзкім габрэям не вярнулі будынак сынагогі, гінуць Каталіцкія, Усьпенскія і Машэкаўскія могілкі...

**Паводле афіцыйнага паведамленьня, у вобласьці павялічылася колькасьць індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэта сталася магчымым пасьля таго, як пад ціскам ранейшых страйкаў прыватных гандляроў на Магілёўшчыне былі ўсталяваныя ледзь ня самыя нізкія стаўкі падаткаў для прадпрымальнікаў. За мінулы год адзін прадпрымальнік у сярэднім прынёс у казну 714 тыс. рублёў, а годам раней – усяго 260 тысяч. Гэта сьведчыць аб тым, што прыватны бізнэс здольны прыносіць вялікі прыбытак нават ва ўмовах антырынкавай палітыкі дзяржавы.**

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

# Ці выцягне моладзь...

***Беларусь відавочна паціху паглынаецца багнай. Аднак з гэтым упарта не пагаджаецца патрыятычная моладзь, якая, як вядома, гэтымі днямі, пачынаючы з 14-га лютага, прадпрымае чарговую спробу абудзіць грамадзтва лёзунгам "Беларусь – у Эўропу!"...***

***Ніжэй мы падаем кроніку моладзевых акцыяў, што адбыліся ва ўсходніх раёнах вобласьці на мінулым тыдні.***



**КАСЬЦЮКОВІЧЫ.** Горад знакаміты сваім Цэмэнтным заводам, які цяпер практычна стаіць, і вялікім працэнтам моладзевага беспрацоў'я. Актывісты кампаніі "Беларусь – у Эўропу!" у мінулую суботу распаўсюдзілі ў горадзе вялікую колькасьць друкаваных інфармацыйных матэрыялаў на гэтыя й іншыя тэмы, а таксама правялі конкурсы і апытаньні. Пад вечар гараджане былі ўражаныя тым, што над адным з дамоў зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг. Менавіта ў гэтым горадзе доўгі час працаваў Іван Ціцянкоў, знакаміты тым, што літаральна назаўтра пасьля сумна вядомага рэфэрэндуму асабіста сарваў зь менскага Дому ўраду нацыянальны сьцяг. Таму гараджане, пазіраючы гэтым вечарам на яго ную копію ў сваім горадзе, назвалі патрыятычны ўчынак невядомага багатыра "Прывітаньнем Ціцянкову".

**КЛІМАВІЧЫ.** Група актывістаў пачала з раздачы клімаўчанам інфармацыйных буклетаў. Чакалася, што адпаведна падрыхтаваныя апытальнікі зь мясцовага тэхнікуму правядуць "сацыялягічны зрэз" грамадзкай думкі. Аднак адміністрацыя навучальнай установы, якая перад тым пагаджалася на ўдзел у акцыі, у апошні момант адмовілася дапамагчы моладзі. Той давялося самой ратаваць праграму эўрапейскага дня. Вось якая атрымалася сацыялягічная карціна:

– Сярод валютаў перамог амэрыканскі даляр (60% апытаных), далей – эўра, на трэцім месцы – расейскі рубель.

– БПСМ падтрымлівае 47%, а малады Фронт – 32%.

– Нацыянальны сьцяг выбралі 57%, а цяперашні дзяржаўны – 43%.

– Найперш маладыя хацелі б наведаць Італію, Францыю, Вялікую Брытанію й Нямеччыну.

– У прэзыдэнцкім апытаньні перамаглі Лукашэнка (33%) і Зянон Пазьняк (20%).

– У Бога вераць больш за 80% апытаных (канфэсія пераважна праваслаўная).

**КРЫЧАЎ.** Тут моладзь правяла літаратурную сустрэчу зь мясцовым паэтам і пісьменьнікам Панасам Палітыкам. У горадзе, дзе, дарэчы, жыве больш за 30 тыс. чалавек, была распаўсюджаная вялікая колькасьць друкаваных матэрыялаў на гістарычныя і актуальныя тэмы Эўропы і Беларусі. Праведзенае апытаньне дало такія вынікі:

– За эўрапейскую пэрспэктыву краіны выказалася больш за 59%, за саюз з Расеяй – 41,5%.

– Сярод валютаў расейскі рубель набраў усяго 3%, беларускі – 15%, а перамог амэрыканскі даляр – 54%.

– Пароўну падзялілі сымпатыі БПСМ і Малады Фронт – па 42%.

– Зараз за Лукашэнку прагаласавалі б 33%, за Домаша – 15%, за Пазьняка – 9,2%.

– Чацьвертая частка апытаных ня верыць у Бога.

***Моладзевая акцыя "Беларусь – у Эўропу!" працягнецца ўключна да 1-га сакавіка, калі на нашым кантынэнце, ды і ва ўсім сьвеце будзе адзначацца Дзень Эўропы. Па нашай вобласьці акцыя рухаецца з усходу на захад.***

***Паводле прэс-рэлізу МФ***

## Самыя таленавітыя творцы

Дзіцячая творчая майстэрня "Сьвісьцёлка", якая базуецца ў раённым цэнтры культуры, правяла невялікую выставу ў офісе аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар".

Былі выстаўленыя арыгінальныя, бо выробленыя ў адзіным экзэмпляры, гліняныя дудкі, дудачкі, карыны і, зразумела, сьвісьцёлкі. Паводле старажытных беларускіх тэхналёгіяў і вобразаў творы ўтварылі цэлую фаўну: конікаў, соваў, козьлікаў і пеўнікаў. Крычаўскія дзеці-творцы працуюць пад кіраўніцтвам мастака-энтузіяста Вячаслава Якавенкі.

***Андрэй КУЗЬМІН***

## І гэтага будзе дастаткова?

***У Менск прыехала дэлегацыя Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША, якая правядзе сустрэчы зь беларускімі афіцыйнымі асобамі, прадстаўнікамі апазыцыі й незалежных СМІ, а таксама – жонкамі зьніклых палітыкаў.***

Дэлегацыю ўзначальвае намесьнік памочніка Дзяржаўнага сакратара ЗША па адносінах зь Беларусьсю, Малдовай, Расеяй і Украінай Стывэн Пайфэр. Чакаецца, што амэрыканцы будуць абмяркоўваць і такую праблему (яна усё больш настойліва падымаецца заходняй прэсай), як незаконны продаж Беларусьсю зброі. Таксама дэлегацыя Дзярждэпартамэнту павінна будзе даць агульную ацэнку сытуацыі ў Беларусі паводле крытэраў, вызначаных АБСЭ. Дарэчы, днямі Лукашэнка ў інтэрвію амэрыканскаму часопісу яшчэ раз падкрэсьліў, што КНГ АБСЭ павінна пакінуць Беларусь ці перагледзець умовы свайго знаходжаньня, паколькі "ейны мандат скончыўся".

***Валер КАЛІНОЎСКІ***

**P.S.** Дэпутат "палаты прадстаўнікоў" Іван Пашкевіч прапанаваў паведаміць грамадзкасьці памеры сумаў, атрыманых Рэспублікай Беларусяй ад продажу зброі. Ён лічыць, што толькі такім чынам краіна магла б адкінуць падазрэньні ў продажы зброі рэжымам, што падтрымліваюць тэрарызм.

# Для каго скончыўся дзень...

***Старшыня суполкі Свабоднага прафсаюзу Магілёўскага будаўнічага трэсту №12 Аляксей Паўлоўскі плянуе зьвярнуцца ў суд з прычыны свайго звальненьня з працы.***



Фота IREX

Муляра Паўлоўскага звольнілі за прагул без уважлівай прычыны. Насамрэч, аднак, адбылася нейкая блытаніна (ёсьць верагоднасьць, што наўмысная) з так званымі "бацькоўскімі днямі", якія прадастаўляюцца спадару Аляксею па ягонай заяве – як шматдзетнаму бацьку – раз на тыдзень й без аплаты.

Начальства будаўнічага ўпраўленьня напачатку лютага чамусьці вырашыла не задаволіць заяву Паўлоўскага на такі бацькоўскі дзень, знайшоўшы для гэтага фармальную нагоду. Але прафсаюзны актывіст даведаўся пра такі паварот падзеяў толькі тады, калі гэты дзень ужо скончыўся... А паколькі ў яго й раней былі дысцыплінарныя спагнаньні (начальства заўсёды за ім прыдзірліва сачыла), то адбылося звальненьне "па артыкулу".

Нагадаю, што нядаўна А.Паўлоўскі ўзначальваў дэлегацыю будаўнікоў падчас своеасаблівай "акцыі прашэньня міластыні", калі рабочыя прыйшлі патрабаваць заробак да аблвыканкаму. **("ТМ" пра гэта пісаў – рэд.)** Між тым, рабочыя трэсту па-ранейшаму не атрымліваюць сваіх заробкаў. Днямі з пасады кіраўніка трэсту сышоў сп.Ваксман, але па гэтай ці якой іншай прычыне, – невядома.

Тым часам трэст сьцьвярджае, што прычына нявыплат – запазычанасьць бюджэтаў усіх узроўняў, якія не разьлічваюцца з арганізацыяй за будаўнічыя працы.

***Ганна ЮРЧАНКОВА***

# Звольненых хопіць на буйную суполку

***Паводле зьвестак праваабарончага цэнтру "Вясна", толькі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі па палітычных матывах былі звольненыя больш за 30 чалавек.***

Самы гучны выпадак – звальненьне настаўніка школы з Крупак Андрэя Аляхновіча, які ўдзельнічаў у незалежным назіраньні за выбарамі. Папулярнага сярод мясцовых школьнікаў настаўніка звольнілі з фармулёўкай "за антымаральнае выхаваньне дзяцей". Вучні спадара Аляхновіча нават зьбіралі подпісы ў яго абарону, але безвынікова.

Нямала выпадкаў звальненьня актывістаў апазыцыйных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў і проста незадаволеных уладай асобаў было зафіксавана на Магілёўшчыне, Меншчыне, Гарадзеншчыне ды ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Нядаўна ў Берасьці быў утвораны лякальны саюз людзей, якія былі звольненыя з працы паводле палітычных матываў. Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі й старшыня БХК Таццяна Працька ўжо заявілі аб тым, што будуць падтрымліваць новае ўтварэньне й шчыльна супрацоўнічаць зь ім. Аб падтрымцы такой суполкі ў нашым рэгіёне, калі яна ўтворыцца, заявіў кіраўнік магілёўскага аддзяленьня БХК У.Краўчанка.

Супрацоўніцтва незаконна пакрыўджаных і праваабаронцаў можа даць неблагі плён: адны вызначаюцца настойлівасьцю, іншыя – ведамі і практыкай адносінаў з судамі, пракурорамі, міліцыяй. Прыкладам, "ТМ" паведамляў пра судовую перамогу выкладчыцы Клічаўскага тэхнікуму, якая была незаконна звольненая, бо, відаць, праявіла недаравальную, на думку адміністрацыі, актыўнасьць падчас нядаўніх выбараў.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па юрыдычных пытаньнях***

АБАРАНІ СЯБЕ САМ

# Выканкам супраць міжнародных канвэнцыяў?

***Грамадзянін Альберт Яўменаў накіраваў старшыні Асіповіцкага райвыканкаму В.Шчэцьку заяву. Мы друкуем яе ніжэй зь неабходнымі для чытачоў уласнымі камэнтарамі.***

Паважаны Віктар Уладзімеравіч.

26-га красавіка 1999г. мне, начальніку ўчастка Ялізаўскага шклозаводу, была аб'яўленая строгая вымова з пазбаўленьнем прэміі й вынесенае папярэджаньне аб магчымым звальненьні за маю адмову ўдзельнічаць у суботніку. ***(Падкрэсьлім, што суботнікі, якія захаваліся ў нас ад камуністычных часоў, афіцыйна носяць цалкам добраахвотны характар – тут і далей у дужках камэнтар "ТМ").*** У сьнежні 1999г. я быў звольнены з працы. Грамадзкая думка адразу расцаніла гэтую падзею як перасьлед за маю дзейнасьць у якасьці лідэра суполкі Свабоднага прафсаюзу Беларускага (СПБ), за актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці краіны, што знайшло адлюстраваньне ў незалежных СМІ. СПБ падаў зыск аб маім аднаўленьні на працы.

Спрабуючы "замяць" гэтае пытаньне, 16 красавіка 2000г. мяне запрасілі ў райвыканкам спадары намесьнікі старшыні Ў.Шаўчэнка і Ч.Радзіеўскі. Яны паведамілі, што была пастанова райвыканкаму аб маім працаўладкаваньні. Падзякаваўшы за клопат, я выказаў жаданьне працаваць на любым прадпрыемстве горада ці раёна, але атрымаў адмову. Рэч у тым, што падчас размовы са мной супрацоўнікі райвыканкаму прыйшлі да высновы, што мне нельга працаваць на прадпрыемствах, на чыгунцы, у пазаведамаснай ахове й г.д. На маё пытаньне: чаму ж нельга, а дзе тады можна? – прагучаў дзіўны адказ: "Ты ж фанат!". Растлумачыць, што гэта азначае, чыноўнікі адмовіліся.

На жаль, далейшая хада падзеяў пацьвердзіла самыя горшыя чаканьні, бо ўжо на працягу больш двух гадоў я не магу нідзе ўладкавацца на працу.

Напрыклад, у мінулым годзе старшыня Ялізаўскага пасялковага савету В.Арыбей прапанаваў мне працу з заробкамі ў 12, а пазьней у 20 тыс. рублёў. А ў студзені гэтага году ўжо Вы ***(нагадаем, што ліст адрасаваны старшыні райвыканкаму)*** зрабілі мне прапанову ўладкавацца электрыкам у калгас з акладам ажно ў 50 тыс. рублёў, якія атрымаю – у лепшым выпадку – праз 3-4 месяцы. Да таго ж ехаць на працу ў калгас мне прыйшлося б за 15 кілямэтраў. Улічваючы, што мінімальны спажывецкі бюджэт у нашай краіне складаў у студзені 94 тыс. рублёў, інакш як зьдзекам назваць гэтую прапанову нельга.

Сыходзячы з вышэйпрыведзеных фактаў, я ўпэўнены ў тым, што дзеяньні ўладаў скіраваныя на тое, каб пазбавіць мяне й маю сям'ю ***(у спадара Альберта пяцёра непаўнагадовых дзяцей)*** сродкаў існаваньня, права на працу, ізаляваць мяне ад грамадзтва, выкарыстаць мой прыклад для запалохваньня іншых.

Вы можаце даказаць, што я памыляюся, толькі ў тым выпадку, калі выканаеце рэкамэндацыю Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) аб аднаўленьні мяне на працы з поўнай кампэнсацыяй згубленага заробку за ўвесь гэты час. Нагадваю Вам, што Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Канвэнцыю №87 ад 1948г. "Аб свабодзе асацыяцыяў і аб абароне права на арганізацыю", а таксама Канвэнцыю №98 ад 1949г. "Аб праве на арганізацыю і вядзеньне калектыўных перамоваў". ***(Тым самым урад краіны ўзяў на сябе абавязкі не перасьледваць, у прыватнасьці, прафсаюзных актывістаў, а наадварот – абараняць іх ад перасьледу працадаўцаў).***

Пакідаю за сабой маральнае права ў выпадку Вашай адмовы спагнаць праз суд згублены мною заробак ня толькі з дырэктара ААТ "Шклозавод Кастрычнік", але і з Вас асабіста.

Адказ прашу даць згодна "Закону аб зваротах грамадзянаў".

**12.02.2002г. А.Яўменаў**

# Усё яшчэ наперадзе

***Рада Магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту і ейны старшыня Ўладзімер Краўчанка летась даволі шчыльна супрацоўнічалі з нашай газэтай. Дзякуючы гэтаму нашыя чытачы першымі бачылі шмат якія дакумэнты, першымі дазнаваліся пра падзеі і факты з поля змаганьня праваабаронцаў за правы чалавека. Вось і гэтым разам У.Краўчанка перадаў рэдакцыі тэкст свайго справаздачнага дакладу, які днямі прагучаў і быў абмеркаваны на абласным сходзе рэгіянальнага аддзяленьня БХК. Мы адаптавалі гэты тэкст для публікацыі, якую й падаем ніжэй.***

За мінулы час БХК, выконваючы Статут, праводзіў маніторынг парушэньняў правоў чалавека ўладнымі структурамі. Працавала супольная грамадзкая прыёмная (БХК і Магілёўскага Праваабарончага цэнтру), дзе юрысты давалі грамадзянам бясплатныя кансультацыі, а сябры БХК выступалі на просьбу грамадзянаў іхнымі прадстаўнікамі (грунтуючыся на арт.62 Канстытуцыі РБ) у судах, міліцыі, пракуратуры, іншых дзяржаўных органах. Аўтарытэт БХК сярод мясцовага насельніцтва вырас (калі на пачатку года ў грамадзкую прыёмную зьвярталіся 20-30 чалавек на месяц, то напрыканцы году – да 60-ці). Значным посьпехам можна лічыць атрыманьне новага памяшканьня для працы грамадзкай прыёмнай, якая цяпер знаходзіцца **па завулку Крупскай, д.5.**

Пра аўтарытэт нашай працы гаворыць і тое, што ня толькі шараговыя грамадзяне, але й некаторыя супрацоўнікі міліцыі, пракуратуры, судоў і органаў юстыцыі пачалі раптам... дапамагаць нам працаваць. Дзякуючы нашай настойлівасьці, напрыклад, была ўзбуджаная крымінальная справа супраць афіцэраў Кастрычніцкага РАЎС г.Магілёва Васільева і Боціна. Гэтую справу мы кантралюем і сёньня. Тое, што начальніку міліцыі Слаўгарадзкага РАЎС Балдышэўскаму аб'яўлена аб неадпаведнасьці займаемай пасадзе, таксама ёсьць вынікам нашай настойлівасьці. **(Пра змаганьне праваабаронцаў з падпалкоўнікам Балдышэўскім мы падрабязна інфармавалі чытачоў – "ТМ").**

За справаздачны пэрыяд намі зафіксаваныя масавыя парушэньні правоў чалавека ў нашым рэгіёне. Яны адбываліся, напрыклад, падчас "Чарнобыльскага Шляху", калі міліцыянты перашкаджалі жыхарам Магілёва атрымваць інфармацыю аб трагічнай падзеі шляхам ізаляцыі ўдзельнікаў жалобных мерапрыемстваў. Таксама парушаліся правы чалавека падчас першамайскіх сьвятаў, калі міліцыянты 1-га траўня затрымлівалі каля плошчы Леніна ў Магілёве грамадзянаў і дастаўлялі іх у пастарункі, дзе складаліся пратаколы аб адміністратыўных правапарушэньнях. Гэтыя грамадзяне папярэдне зьвярнуліся да ўлады зь пісьмовай просьбай дазволіць ім выступіць падчас мітынгу, аднак, баючыся, што іхныя выступы будуць адрозныя ад афіцыйных, улада "перадала" мяркуемых прамоўцаў міліцыі. Нават судзьдзі, якія, як вядома, цалкам залежаць ад мясцовай "вэртыкалі", вымушаныя былі без наступстваў спыняць тыя адміністратыўныя справы, бо ў паводзінах затрыманых грамадзянаў відавочна не было ніякага складу правапарушэньня.

Надзвычай вялікай колькасьцю парушэньняў правоў чалавека суправаджаліся прэзыдэнцкія выбары. Масавыя парушэньні законаў з боку "вэртыкалі", КГБ, міліцыі і судоў працягваліся і пасьля выбараў. У часе выбараў і пасьля іх прадстаўнікі гэтых ведамстваў масава парушалі Канстытуцыйныя правы грамадзянаў шляхам нападу на рэдакцыі незалежных выданьняў, прыватныя кватэры, офісы грамадзкіх арганізацыяў. Напады ставілі сабе за мэту канфіскацыю маёмасьці грамадзянаў, а таксама – офіснай, у першую чаргу, кампутарнай тэхнікі. **(Большасьць выпадкаў, што былі прыведзеныя ў дакладзе, вядомыя нашым чытачам па ранейшых публікацыях – "ТМ").**

Адказныя задачы стаяць перад нашым аддзяленьнем БХК сёлета. У ліку іх – наладжваньне працы Школы правоў чалавека, актывізацыя дзейнасьці грамадзкай прыёмнай, правядзеньне маніторынгу ўстановаў выкананьня пакараньня, а таксама – працяг маніторынгу судоў і працы міліцыі. Асобным радком трэба паставіць наладжваньне супрацоўніцтва з органамі ўлады, судамі, пракуратурай, міліцыяй, грамадзкімі арганізацыямі й партыямі, сродкамі масавай інфармацыі. Зразумела, што аддзяленьне БХК не здымае зь сябе карпатлівай працы па непасрэднай кансультатыўнай, прадстаўнічай і судовай абароне грамадзянаў у выпадках, калі парушаныя іхныя асноўныя правы, гарантаваныя Канстытуцыяй і Міжнароднымі канвэнцыямі.

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Калі побач стануць анёлы...

***У намёце абаронцаў ёсьць невялічкая бібліятэка – кнігі захоўваюцца ў адмысловай скрынцы. Цяпер, калі моладзь перахварэла на грып, яна зьвярнулася да людзей, каб тыя, хто мае такую магчымасьць, падносілі ім кнігі беларускіх пісьменьнікаў: Васіля Быкава, Уладзімера Караткевіча ды іншых.***

... Мінула амаль пяць месяцаў з таго часу, як пачалася моладзевая вахта памяці. Валанцёры жывуць у своеасаблівых, цяжкіх умовах: гэтае існаваньне можна акрэсьліць як змаганьне за выжываньне. Яны аб'яднаныя адной ідэяй – захаваць нацыянальны нэкропаль.

Тым часам у "дарослым" грамадзкім асяродзьдзі працягваюцца спрэчкі вакол канцэпцыі мэмарыялізацыі ўрочышча. Вядомы менскі скульптар Алесь Шатэрнік мае свой праект мэмарыялу. Менавіта ён, дарэчы, адрэстаўраваў нядаўна "лаўку Клінтана". На ягоную думку, Крыж 89-га году ня мусіць быць галоўным стрыжнем мэмарыяльнай кампазыцыі: "Цывілізаванае грамадзтва павінна мець сродкі й жаданьне захаваць памяць пра сваё мінулае. І зрабіць проста могільнік – няправільна, хаця традыцыі й трэба скарыстоўваць. Таму мне бачыцца ў мэмарыяле яшчэ й твор мастацтва. Гэта будзе мець большае гучаньне".

Алесь Шатэрнік прапануе зрабіць постаці людзей-зданяў на бярвеньнях у натуральную велічыню, а таксама дадаць да гэтай кампазыцыі дзьве вялікія шыльды, стылізаваныя пад крылы анёлаў. На іх ён мяркуе зьмясьціць імёны й прозьвішчы беларусаў, што загінулі ў часе бальшавіцкага тэрору. На вяршыні гэтай кампазыцыі скульптар пляное ўсталяваць сонцакрыж – традыцыйны для беларускага сакральнага мастацтва.

***Ганна СОУСЬ***

# Нязгодныя ісьці ўчорашнім шляхам

Тысячы малдоўскіх вучняў і студэнтаў зладзілі днямі масавыя дэманстрацыі ў Кішынёве, дамагаючыся адстаўкі камуністычнага ўраду краіны. Каля 20-ці тысячаў чалавек несьлі нацыянальныя малдоўскія і румынскія сьцягі пад лёзунгамі "Далоў камунізм!". Трэба зазначыць, што моладзь пратэставала супраць намеру ўраду надаць расейскай мове статус другой афіцыйнай, а таксама супраць заплянаванага на савецкі лад перагляду падручнікаў па найноўшай гісторыі Малдовы.

***Паводле інф. агенцыяў***





Фота IREX

# А мы ідзем усё тым жа курсам

***Лукашэнка распарадзіўся нанова перапісаць школьныя ды іншыя падручнікі па гісторыі, грамадазнаўству, а таксама па некаторых іншых гуманітарных дысцыплінах.***

Першая такая спроба, нагадаем, была прадпрынятая ім адразу пасьля прыходу да ўлады, але навуковай грамадзкасьці ўдалося тады ў асноўным уратаваць аб'ектыўны погляд на нашую гісторыю. Менавіта гэты погляд Лукашэнка называе нацыяналістычным. Акрамя таго, на ягоную думку, у цяперашніх падручніках "мала ўвагі надаецца вырашэньню ідэйна-палітычных задач". Дацэнт БДУ Павал Лойка, які ўваходзіў у аўтарскі склад аднаго зь цяперашніх падручнікаў, камэнтуючы гэтую заўвагу, зазначыў, што "падручнікі сапраўды павінны служыць справе выхаваньня дзяржаўнага патрыятызму, але гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі ў іх будзе адлюстраваная сапраўдная, аб'ектыўная гісторыя, а не выбраная ў дагоду нейкаму аднаму ідэалягічнаму кірунку".

Гэты кірунак, якога ва ўсім прытрымліваецца адміністрацыя краіны, добра вядомы. Яго можна было б сфармуляваць як канцэптуальную адмову ад усяго нацыянальнага ў гісторыі і культуры. Пацьвердзіць "правільнасьць" такога курсу прызваныя зараз навукоўцы, якія, у прыватнасьці, пішуць падручнікі. На жаль, не выпадае сумнявацца, што знойдзецца нямала аўтараў, якія з энтузіязмам возьмуцца за "адказнае даручэньне".

***Паводле інфармацыйных агенцыяў***





# Вакенца ў праўдзівую гісторыю

***У аўторак адбылася грамадзкая прэзэнтацыя чарговага, 9-га выпуску альманаху "Магілёўская даўніна". Нагадаем, што "ТМ" ужо друкаваў рэцэнзію-анатацыю на гэтае выданьне.***

... Падчас прэзэнтацыі, на якую прыйшлі каля трох дзясяткаў чалавек, выступілі стваральнікі альманаха: кандыдат гістарычных навук Алесь Агееў, доктар гістарычных навук Якаў Рыер, кандыдат гістарычных навук Ігар Марзалюк, выкладчык гісторыі Ігар Пушкін, былы дэкан філялягічнага факультэту Магілёўскага дзяржаўнага ўнівэрсітэту Яраслаў Клімуць ды іншыя. Усе выступоўцы, а таксама прысутныя на імпрэзе чытачы альманаху адзначылі, што самое выданьне "Магілёўскай даўніны" у неспрыяльных умовах на працягу ўжо амаль 7 гадоў – гэта вялікае дасягненьне ўсіх рупліўцаў беларушчыны.

Сапраўды, праца над альманахам вымагае вялікіх высілкаў і энтузіязму, паколькі не нясе ніякіх дывідэнтаў, акрамя маральнага задавальненьня. Прыемна адзначыць, што навукоўцам дапамагаюць выдаваць "МД" прадстаўнікі грамадзкасьці, сярод якіх – аб'яднаньне "Кола сяброў" і Таварыства беларускай мовы.

Як адзначыў прафэсар Я.Рыер, у альманаха ёсьць вельмі высокае прызначэньне, асабліва сёньня, калі ізноў распачатая праца па перакройцы школьных падручнікаў. Вядома, што іх хочуць зрабіць адпаведнымі палітычным памкненьням улады. У гэтых умовах "Магілёўская даўніна" выконвае важкую задачу данясеньня гістарычнай праўды да сучасьнікаў.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***
***Фота аўтара.***





## ШТО НА ТЫДНІ... У БАБРУЙСКУ, ГОРКАХ І АСІПОВІЧАХ



***Распачалося анкетаваньне гараджанаў у межах праекту "Чысты горад".***

Гэты праект аб'яднаў шэраг грамадзкіх арганізацыяў – турыстычны клюб "Радзіма", скаўцкі зьвяз "Хрысьціянская садружнасьць дарослых і дзяцей", Школу маладога журналіста ды інш. Рэспандэнтам прапануецца выказаць свой пункт гледжаньня на мясцовыя экалягічныя праблемы.

***У Глушы (Бабруйскі раён) адбылася прэзэнтацыя "Ангельскай сусьветнай энцыкляпэдыі", арганізаваная Ангельскім культурным цэнтрам, што працуе пры Віцебскім унівэрсытэце.***

Падзея адбылася ў межах сэмінару для выкладчыкаў замежных моваў. У якасьці падарунка раённай бібліятэцы была перададзеная 22-томная ілюстраваная энцыкляпэдыя коштам каля паўтары тысячы амэрыканскіх даляраў.

***Віктар КАЧАН***



***Раённая паліклініка распачала платны кансультатыўны прыём грамадзянаў.***

Дадаткова прыйдзецца плаціць і за правядзеньне дыягнастычных дасьледаваньняў, а таксама за матэрыялы і лекі.

***Мясцовая жаночая арганізацыя "Любава" падпісала дзяцей-інвалідаў, якія могуць самастойна чытаць, на дзіцячую газэтку "Несьцерка".***

Днямі грамадзкія актывісткі выпісалі "Несьцерку" і на дзіцячае аддзяленьне раённай больніцы, папярэдне атрымаўшы згоду галоўнага доктара.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***



***Адпаведныя ўстановы мясцовай лякарні правялі аналіз сьмяротнасьці насельніцтва.***

Ён паказаў, што часьцей за ўсё прычынай заўчаснай сьмерці зьяўляецца хвароба органаў крывазвароту – 56% усіх сьмяротных выпадкаў. На другім месцы апынуліся няшчасныя здарэньні – 12%, на трэцім – анкалягічныя захворваньні – 11%.

***На пачатку лютага ў мясцовай паліклініцы пачаў працаваць платны кабінэт лячэньня алькагалізму.***

Па словах мэдпэрсаналу, кліентаў у іх хапае, бо паслугі пакуль каштуюць нядорага. Напрыклад, кадаваньне ад ужываньня сьпіртнога абыходзіцца пацыенту прыкладна ў 20 тыс. рублёў.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

# Спачатку патрэбныя зьмены ў іншых калідорах

***У Менску адбылася прадстаўнічая Міжнародная канфэрэнцыя "Рэфармаваньне тэлерадыёвяшчаньня ў краінах пераходнага пэрыяду: Беларусь", ініцыянаваная Эўрапейскім інстытутам СМІ (Брусэль) і Беларускай асацыяцыяй журналістаў.***

Самая ідэя аб неабходнасьці ў нашай краіне гаворкі на гэтую тэму, што была агучаная некалькі месяцаў таму, выклікала цікавасьць і прыхільнасьць з боку адпаведных як недзяржаўных, так і дзяржаўных структураў і арганізацыяў, якія маюць непасрэднае дачыненьне да функцыянаваньня СМІ і, у прыватнасьці, да тэлебачаньня і радыё. Але пры адкрыцьці канфэрэнцыі было абвешчана, што яе ўсё ж праігнаравалі менавіта тыя, ад каго ў першую чаргу залежыць канцэпцыя і кірунак насьпеўшага рэфармаваньня электронных СМІ – Міністэрства інфармацыі і Нацыянальная дзяржтэлерадыёкампанія. Затое своеасаблівай кампэнсацыяй за адсутнасьць прадстаўнікоў памянёных дзяржструктураў стаўся ўдзел у канфэрэнцыі трох дэпутатаў "заканадаўчай палаты", тым больш нечаканы, што менавіта на "палату" адміністрацыяй краіны ўскладзеная задача прыняцьця ў хуткім часе новай рэдакцыі Закону аб друку. Гэтая "новая" рэдакцыя, паводле заключэньня міжнародных экспэртаў у галіне СМІ, а таксама ацэнак, дадзеных ёй дэмакратычнымі партыямі, грамадзкімі і творчымі арганізацыямі краіны, здольная нанесьці ўнушальны ўрон стану і зьместу беларускіх СМІ й значна пагоршыць іхняе й без таго цяжкае становішча. А значыць – грамадзяне стануць атрымваць яшчэ менш аб'ектыўнай інфармацыі. Таму, нягледзячы на "тэарэтычны" характар, канфэрэнцыя выказала занепакоенасьць заплянаванай рэвізіяй закону й зьвярнулася да ўлады з патрабаваньнем спыніць сваё ўмяшальніцтва ў вольнае жыцьцё сродкаў масавай інфармацыі, у якім паміж выданьнямі і чытачамі, як тое адбываецца ў цывілізаваных краінах, ніхто ня мае права стаяць.

Што ж тычыцца БТ і радыё, а таксама іхных падразьдзяленьняў у рэгіёнах, дык удзельнікі канфэрэнцыі прызналі сытуацыю зь імі нават небясьпечнай для маральнага існаваньня грамадзтва. Група творчых супрацоўнікаў тэлебачаньня, якая, дарэчы, складае сэкцыю ў Беларускай асацыяцыі журналістаў, давяла да канфэрэнцыі сваю цьвёрдую ўпэўненасьць у тым, што пры цяперашнім рэжыме няма ніякай надзеі на дэмакратычнае рэфармаваньне гэтага дзяржаўнага каналу на карысьць інтарэсаў грамадзтва. Яшчэ больш небясьпечным можа стацца акцыянэрнае БТ-2, бо нацыянальным гэты канал ня будзе па вызначэньні, паколькі кантрольны пакет акцыяў застанецца за дзяржавай.

Гэтым заявам і высновам імкнуліся запярэчыць некаторыя з прысутных дэпутатаў, якія, аднак, менавіта сваімі выступамі ў абарону рэжыму толькі яшчэ больш пацьвердзілі праўдзівасьць сказанага прафэсіяналамі. Ускосную згоду з тым, што для дэмакратычных пераменаў на тэлебачаньні і радыё патрэбнае палітычнае жаданьне ўлады і сьвядомая еднасьць грамадзтва, выказалі й замежныя выступоўцы з эўрапейскіх структураў, а таксама – знаўцы праблемаў вяшчаньня зь Нямеччыны, Галяндыі, Чэхіі, Украіны і Сэрбіі.

Асабліва ўважлівымі былі ўдзельнікі канфэрэнцыі да досьведу распачатага рэфармаваньня нацыянальнага тэлебачаньня і радыё менавіта ў Сэрбіі. Бо вядома, што гэтаму працэсу самым непасрэдным чынам папярэднічалі грамадзкія палітыка-дэмакратычныя захады, якія й забясьпечылі перамогу над мілошавіцкім дыктатарскім рэжымам.

Беларуская міжнародная канфэрэнцыя па праблемах тэлебачаньня і радыё ніводную з праблемаў "ня вырашыла". Але яна дапамагла прафэсіяналам электронных і друкаваных СМІ, юрыстам, што спэцыялізуюцца ў гэтай галіне, а таксама кіраўнікам творчых грамадзкіх арганізацыяў супольна пераканацца, як мінімум, у дзьвюх рэчах:

1. БТ і радыё маюць тэрміновую і цалкам абгрунтаваную неабходнасьць у дэмакратычным рэфармаваньні.
2. Бязь зьмены кіруючага рэжыму на дэмакратычны рэфармаваньне тэлерадыёвяшчаньня на карысьць грамадзтва немагчымае.

... Цікава, што з гэтымі высновамі пагадзіліся й двое з трох дэпутатаў. Праўда, у кулюарах.

***Генадзь СУДНІК***
***("дарэжымны" старшыня аблтэлерадыё)***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 8. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 21.02.2002 г. а 17.10